Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 37 Серада, 22-га Кастрычніка 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Значэньне самаўраду.

У працэсе тварэньня дзяржаўнае ўлады на мясцох Польская Рэспубліка змушана была насаджваць адміністрацыйны апарат зьверху, які абнімаў сабою і тыя справы, што проста падлягаюць веданьню органаў мясцовага самаўраду.

Сучасная арганізацыя, напрыклад, самае першае „сялянскае“ інстанцыі ўлады ў воласьці з назначанымі войтамі (валаснымі старшынямі), заўсёды бышымі выбарнымі сялянства, патрабуе свайго ўдасканаленьня.

Конституцыя Рэспублікі прадбачыць мясцовы самаўрад у Польшчы і, пры дэмакратычных выбарах, у органы гэтага самаўраду свае мясцовыя справы разрашацца будуць самым насяленьнем цераз сваіх выбарных.

Закон аб самаўрадзе мае быць хутка ўнесены ў законадаўчыя інстытуцыі Рэспублікі і, калі ён увайдзе ў сілу, будуць назначаны самаўрадовыя выбары.

Калі ўсё гэта адбудзецца, яшчэ напэўна невядома, але ясная рэч, што адбудзецца ў ня надта далёкім часе.

Самаўрад патрабуе, каб у органах яго засядалі ня простыя крыкуны, што ўмеюць толькі палітыкаваць, а людзі практычнае працы, якія ўмелі-б разумна вырашаць мясцовыя справы свае акругі.

Аб значэньні самаўраду шмат гаварыць ня прыходзіцца.

Усім ведама, якую важную ролю гралі земствы нават пад царскаю ўладаю і земствы навет саўсім недэмакратычныя, бо царская ўлада прадстаўнікамі ў земскія органы дапушчала толькі гэтак званыя „цэнзавыя“ элемэнты.

Аднак-жа, і гэткія цэнзавыя земствы дзе-ня-дзе па бышай Расеі шмат зрабілі дзеля школьнае справы, дзеля паднясьця народнае прасьветы ды часам сельскае гаспадаркі.

Земствы паляпшалі ў некаторых, праўда толькі маскоўскіх, губэрнях будову сялян, паляпшалі землякарыстаньне і праз гэта наагул увесь дабрабыт селяніна.

Якраз у заходніх губэрнях Беларусі, ці як тады звалі, „Северо-Западнаго края“ земстваў расейская ўлада ня ўводзіла аж да самага канца свайго панаваньня і ў гэтым быў наш вялікі краёвы мінус, бо насяленьне ня мела ніякае навет практыкі ў кіраваньні справамі мясцовага характару.

Насяленьне нашага краю моцна трымалася рэакцыйнаю расейскаю ўладаю пад яе адміністрацыйнаю апекаю і праз гэта не магла вырабіцца ў насяленьні разумная самадзеяльнасьць.

У Польшчы насяленьне, цераз адпаведны закон, будзе паклікана да самаўрадаваньня ў межах мясцовых справаў і, творачы сваю справу, шмат чаму будзе змушана разам з тым і вучыцца, як тую ці іншую справу разрашыць.

Хаця органы мясцовага самаўраду прызваны будуць займацца толькі справамі чыста эканамічнага (гаспадарчага) характару, аднак-жа ўвядзеньне гэтых органаў у жыцьцё будзе адначасна мецьі вялізнае палітычнае значэньне.

Пры творчай працы ў выбарных самаўрадовых органах побач з палякамі бязумоўна станугь і беларусы і штучна раздуты нацыянальны антагонізм у нашым краі пачне заметна чэзнуць.

Польская Конституцыя прызнае роўнасьць правоў грамадзян бяз розьніцы нацыянальнасьці і ў законе аб самаўрадах ніякае нацыянальнае крыўды нікому быць не павінна, бо йначай, дык закон такі будзе спрэчны з самою Дзяржаўнаю Конституцыяю.

Дзеля ўсяго гэтага ўвядзеньне ў нас самаўраду будзе падзеяй вялізнага значэньня і выбары ў самаўрадовыя органы ў недалёкай будучыні зьявяцца для нас, беларусаў, экзаменам на нашу грамадзкую сьпеласьць.

Будзем спадзявацца, што экзамен гэты мы, як належыць, вытрымаем.

## АБВЕСТКА

### Настаўнікам пачатковых школаў.

Школьная Камісія Часовай Беларускай Рады гэтым абвяшчае, што, ў зьвязку з адчыненьнем беларускіх школаў, усім зарэестрованым Камісіяй настаўнікам прапануецца: 1) прыслаць свае адукацыйныя дакумэнты і жыцьцярысы; 2) даныя аб тым, дзе магчыма адчыніць школы (ці ёсьць адпаведныя будынкі); 3) сабраць подпісы ня менш як 40 бацькоў, якія аддадуць сваіх дзяцей у беларускія школы; Подпісы павінны быць зацьверджаны солтысам і войтам; 5) якая школа зьяўляецца пажаданаю — чыста беларуская, ці двухмоўная.

У выпадку, якіх-нібудзь тэхнічных труднасьцяў, ці перашкодаў з боку мясцовае ўлады, незабаўна паведамляць Школьную Камісію па адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka, Hotel „Palace“, Białoruska Komisja Szkolna.

Вакансіі будуць замяшчацца ў парадку паступленьня заяваў.

**Школьная Камісія Час. Бел. Рады.**

## Палітычны агляд.

У канцы мінулага тыдня здарыліся дзьве важныя падзеі, адцягнуўшыя ўвагу навет ад ангельскіх выбараў і здарэньняў у Кітаі ды на Блізкім Усходзе. Гэта — падпісаньне нямецкай міжнароднай пазыкі і пералёт з Эўропы ў Амэрыку праз Атлянтыцкі акіян цэпэліна Z. R. 3. Адным з пунктаў пляну Доўса ёсьць міжнародная пазыка для Нямеччыны ў разьмеры 800 мільёнаў залатых марак г. зн. каля 200 мільён. даляраў. Як меўся рэалізавацца плян Доўса, дык павінна была рэалізавацца й гэтая пазыка. Але загадзя быў падпісаны спэцыяльны дагавор у Лёндане 10 кастрычніка між нямецкімі прадстаўнікамі і прадстаўнікамі фінансавага сьвету на нямецкую пазыку. На аснове гэтага дагавору ў пазыцы прыймаюць учасьце амэрыканскі і эўропэйскі капітал. Першы дае 110 мільён. дал., а другі $26\frac{1}{2}$ міл. фунт. штэрл. Галоўны падпісчык у Амэрыцы гэта банк Моргана, а галоўны учасьнік у эўропэйскай частцы — ангельскія банкі. Апрача таго ў эўропэйскай частцы пазыкі прыймаюць учасьце Францыя, Італія, Швэйцарыя, Голяндыя, Швэцыя і Нямеччына. Пазыка павінна быць зьвернена ў працягу 25 гадоў. Разьмер проценту даходзіць да 7. I самы галоўны варунак дагавору, гарантованы лёнданскім пратаколам, што ўсе сплаты пазыкі ідуць у першую чаргу перад іншымі рэпарацыйнымі сплатамі. Апошні пункт дагавору заслугоўвае спэцыяльнай увагі.

Зараз-жа пасьля падпісаньня гэтага дагавору была абвешчана падпіска на пазыку ў Амэрыцы, Англіі і Швэцыі, якія прыймалі найбольшае ўчасьце ў гэтым. У Амэрыцы, ад якой дамагаліся 110 міл. дал., гэтая сума была пакрыта ў працягу 12-ёх мінют пасьля апавешчаньня аб падпісцы. У Лёндане пазыка была пакрыта ў працягу 2-ёх гадзін. і ў Швэцыі патрэбныя ад яе 16 міл. швэд. крон былі пакрыты ў працягу $\frac{1}{2}$ гадзіны. Апрача таго ў Амэрыцы падпісная сума вышэй за патрэбную суму ў дзесяць разоў.

Чым-жа тлумачыцца гэткая нязвычайная ўдача нямецкай пазыкі? Гэта тым болей цікаўна, што дагэтуль усе нямецкія стараньні аб пазыцы, таксама як і стараньні С. С. Р. Р. былі без рэзультатаў. Гэта перш за ўсё тлумачыцца апошнім варункам пазыкі, г. зн. што сплата пазыкі пойдзе ў першую чаргу, незалежна ад іншых рэпарацыйных сплатаў. Гэта ёсьць галоўная гарантыя, дзеля каторай амаль што не разьбілася лёнданская конфэрэнцыя. Амэрыканскія ды ангельскія банкіры датуль не абясьпечвалі пазыкі, пакуль ім не далі гэтых гарантыяў. Інакш ніводзін з банкіраў, даўшых Нямеччыне пазыку, ня меў пэўнасьці, што іхнія грошы пойдуць на адбудову нямецкай прамысловасьці, як гэта прадбачыць плян Доўса, а не на рапарацыйную сплату для Францыі або Бэльгіі. Дык-жа дзеля гэтага Нямеччына апавясьціла свае банкруцтва, якому ніхто не паверыў і ня верыць. I каб нямецкія грошы не папалі ў рукі саюзьнікаў, нямецкія капіталістыя загадзя перавялі іх заграніцу. А гэты нязвычайны ўсьпех падпіскі на пазыку для Нямеччыны даказвае, што ўсе вераць у нямецкую платаздольнасьць. Капіталістыя з гэтага боку маюць добры нюх. Інакш яны гэтак не дабіваліся-б памясьціць свае капіталы ў Нямеччыне, калі-б ня мелі пэўнасьці, што гэта выгадны і пэўны інтэрас. Бальшавікоў хаця й ня лічаць перамоганымі і ім ня трэба нікому плаціць ніякіх контрыбуцыяў, але як яны 7 гадоў ужо ні стараюцца, чаго толькі не абяцаюць заграннічным капіталістым, а ніхто дагэтуль не

адважыўся даць ім грошы, дзеля таго, што ўсе перакананы, што гэтыя грошы дарма прападуць. І ангельскія капіталістыя рашуча адмовіліся даць саветам пазыку, ня гледзячы на тое, што ўрад Макдональда сам абяцаў яе абясьпечыць. Дзеля гэтага, праўду кажучы, і адбыўся ўрадовы і парлямэнцкі крызыс у Англіі. І ангельскія рабочыя быць можа назаўсёды ўтрацілі свой уплыў толькі дзякуючы таму, што хацелі прымусіць ангельскіх капіталістых зрабіць гэткую рызыкоўную рэч.

Зусім інакш справа стаіць з Нямеччынай. Нямеччына, як ведама, выйшла з вайны менш. пацярпеўшай, чым пераможцы яе. Перш-на-перш уся вайна вялася на чужой тэрыторыі, значыцца нямецкая прамысловасьць зусім не пацярпела, а нямецкія фабрыкі і прадпрыемствы яшчэ большую разьвілі вытворчую здольнасьць. Праўда, яна крыху пацярпела праз тое, што павінна была аддаць саюзьнікам большую частку свайго гандлёвага флёту, чугуначных цягнікоў і вагонаў, пасьля ўвесь паветраны і ваенны марскі флёт. Але-ж яна ў часе вайны не зрабіла даўгоў. Усю вайну яна правяла ўнутранымі пазыкамі, якія самі па сабе ануляваліся, дзякуючы ўпадку нямецкай маркі. У той час, як напр. Францыя праз усю вайну засталася вінавата аднэй толькі Англіі і Амэрыцы 35 мільёнаў залатых франкаў, ня лічачы ўнутраных пазыкаў. І ўсё гэта яна цяпер павінна выплачаваць. Англія ўжо пачала выплачаваць свае грошы і процэнты ад іх Амэрыцы. А Нямеччына пасьпела ўжо цалком адбудаваць свой гандлёвы марскі і рачны флёт, збудавала 18 000 новых чугуначных цягнікоў і больш як 100.000 вагонаў. А тое, што яна ня мае права мець вялікага ваеннага флёту і арміі, гэта толькі на карысьць для яе, дзеля таго, што тыя сумы, якія патрэбны на гэта і якія расходуюць на гэта яе суседзі, могуць быць выкарыстаны на разьвіцьцё прамысловасьці.

Усё гэта бяруць пад увагу амэрыканскія капіталістыя, якія ня маюць куды падзець свае свабодныя капіталы. Урэшце й варункі пазыкі досі выгадныя (7%), у той час як у Амэрыцы сярэдні гадавы процэнт $2\frac{1}{2}$; гэтулькі там лішніх капіталаў.

Побач з нязвычайным усьпехам нямецкай пазыкі здарылася другая рэч сусьветнага значэньня — пералёт цэпэліна з Нямеччыны ў Амэрыку. Цэпэліны выдуманы графам Цэпэлінам нядоўга перад вайной. Сам Цэпэлін памёр у часе вайны. Усяго дагэтуль было збудована ў Нямеччыне ў майстроўнях у Фрыдрыхсгафэне 125 цэпэлінаў. Прытарнованы яны былі, галоўным чынам, да ваенных мэтаў: з іх кідалі бомбы на варожы фронт і бамбардавалі Парыж, Лёндан і інш. гарады. У часе вайны большасьць іх загінула ад узрываў калі іх абстрэльвалі з гарматаў або аэропляnaў, дзеля таго, што яны лёгка загараюцца. Перш-на-перш лёгка загараецца іхняя цьвёрдая скарупа, а апроч таго часта загараюцца газы, якія ў ёй ёсьць. Астаўшыяся пасьля вайны цэпэліны былі зьніштожаны самымі немцамі, каб не папалі яны ў рукі саюзьнікаў. Паводле вэрсальскага дагавору, Нямеччына ня мае права будаваць для сябе цэпэлінаў, як самых шкодных спосабаў вайны. Але Амэрыка, скарыстаўшы тое, што вэрсальскі трактат не забараняе будаваць цэпэлінаў для іншых дзяржаваў, заказала для сябе ў Нямеччыне адзін цэпэлін дзеля гандлёвых мэтаў. Гэты цэпэлін, 126-ы па парадку, завецца Z. R. 3. Дзеля таго, што ён назначаны для курсаваньня між Эўропай і Амэрыкай, дык ён павінен мець вельмі дужыя моторы і аграмадныя разьмеры, ад якіх залежыць яго пад'ёмная сіла. Як цэпэлін выляцеў з Фрыдрыхсгафэну, за ім сачыў увесь сьвет, дзеля таго, што гэта першая спроба паветранай зьвязі Амэрыкі з Эўропай праз Атлянтычны акіян Усю дарогу ад Нямеччыны да Нью-Іорку цэпэлін праляцеў у працягу 81 гадз. 17 мін., праляцеўшы 5066 ангельскіх міляў (ангельская міля крыху меншая за кілёмэтр). На цэпэліне было 4 моторы. З іх праз увесь час працаваў бязупынна адзін. З узятага з сабой бэнзіну зрасходвана палова. Значыцца ён мог праляцець яшчэ гэтулькі. На сваім шляху сустрэнуўся з сільнай бурай і праціўным ветрам, дзеля чаго павінен быў крыху зьмяніць вызначаны сабе напрамак, але ўсёткі прыляцеў шчасьліва. Пасьля гэтай нязвычайнай удачы сучаснай тэхнікі цяпер у Амэрыцы, Англіі, Францыі і інш. дзяржавах толькі й гавораць аб будаваньні новых цэпэлінаў. У Амэрыцы, Англіі і Гішпаніі ўжо сарганізаваліся супалкі дзеля будаваньня новых цэпэлінаў. І хутка можа быць мы будзем сьведкамі, як вялізныя паветраныя караблі будуць разсякаць паветра ў розных кірунках між рознымі часьцямі сьвету.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

8-га гэт. кастрычніка ўдзень пасол Тугут быў прыняты прэм'ер-міністрам п. Ул. Грабскім і адбыў з ім даўгую конфэрэнцыю. Увечары пасол Тугут быў таксама прыняты Маршалкам Сойму Ратаем.

„Robotnik“ піша, што ад некаторага часу йдзе гутарка аб зьменах у кабінэце. Голасна кажуць аб кандыдатуры гэн. Сікорскага ў прэм'еры, а пасла Тугута—на пасаду міністра ўнутраных справаў.

Першым пунктам урадовае праграмы па акраінных пытаньнях зьяўляецца устанаўленьне пасады дэлегата ўраду па акраінных справах з компэтэнцыямі віцэ-міністра, а затым рэвізія агульнае праграмы датычна акраін, усходніх і заходніх ува усіх галінах жыцьця. Як паведамляюць пасада віцэ-міністра па акраінных справах запрапанована В. Роману, быўшаму дэлегату Ураду ў Віленшчыне.

„Kur. Pol.“ паведамляе, што быўшы гарадзенскі архірэй Уладымер выехаў у Чэхаславакію 16 гэтага кастр. У той самы дзень выехаў у Бэрлін архімандрыт жыровіцкі Ціхан, які нібыто адтуль маецца выехаць у С. С. Р. Р.

## За граніцай.

Над'звычайная Камісія Рады **Лігі Народаў**, якая займецца разглядам англа-турэцкага конфлікту па пытаньню аб Мосуле, зьбярэцца больш-менш каля 25—27 кастрычніка ў Брусэлі, Жэнэве або Парыжы.

Як паведамляе „Chicago Tribune” з Рыгі, 25 караблёў савецкага балтыцкага ваеннага флёту адтрымалі загад выехаць у бліжэйшай будучыні на **Далекі Усход.** Караблі гэтыя выядуць на будучым тыдні і скіруюцца у **Уладывасток** цераз Суэцкі канал. Далей газэты паведамляюць, што саветы ўзмацнілі свае гарнізоны на **кітайскай і мангольскай** граніцы і сабралі там значныя запасы ваеннага матар'ялу.

Як тэлеграфуюць з **Масквы,** Чычэрын на паседжаньні Цэнтр. Цык. Камітэту С. С. Р. Р. заявіў, што устанаўленьне нармальных адносін з **Францыяй** можа быць толькі умоўнае. Вестка, нібыто саветы замерваюцца ўвайсьці ў Лігу Народаў, не адпавядае праўдзе.

У **Лёндане** ўжо адтрымана **турэцкая** нота, ў якой ангорскі ўрад заяўляе, што з прычыны спыненьня **Англіяй** ваенных дзеяў у ваколіцах Мосулю, турэцкая армія адтрымала засад не выступаць да часу вырашэньня мосульскага пытаньня Лігаю Народаў.

Як паведамляюць з **Бэрліну,** вядомы тэорэтык марксізму Карусь Кауцкі сьвяткаваў у мінулую пятніцу 70 гадоў ад дня свайго нараджэньня. Эрфурцкая праграма, быўшая ў працягу доўгіх гадоў як-бы эвангельлем нямецкіх соцыяль-дэмакратаў, была ў сваіх асноўных рысах апрацована Кауцкім.

„Echo de Paris“ паведамляе з **Стокгольму,** што туды прыбыў пэрсонал савецкае місіі, якая скіроўваецца ў **Парыж**. Мяркуючы па прозьвішчах, гэта група самых небясьпечных бальшавіцкіх павадыроў, а не пэрсонал пасольства. Бальшавікі сабралі добра складзены агітацыйны цэнтр падобны да таго, які ў свой час арганізаваў у Бэрліне Радэк.

Бюро Рэйтэра паведамляе з **Пэкіну,** што неспадзявана ізноў завязаліся крывавыя баі ў ваколіцах **Шанхай-Квану,** які хочуць заняць войскі Чан-Со-Ліна, але пакуль што безрэзультатна.

---

ЯЗЭП МАСКОФФ.

# У Горнай Дамброве.

Сцэнічны абразок у адным акце.

*Пераклад з польскага.*

*(Глядзі № 36 „Грам. Голасу“).*

**Дачка.** Гэта-ж будзе для мяне такі сорам, што я ніколі ня буду магчы паказацца ў шахце..

**Шахцёр.** Не я адзін іду... Ідзе нас каля трыццацёх, якія розуму набраліся.

**Дачка.** Іншыя не дадуць вам пайсьці.

**Шахцёр.** Пабачым! Хай каторы стане поперак дарогі... гэтак змажу, што яму жыць не захочацца... І ўсё роўна хто — мужык, штыгар, шахцёр — заб'ю!

**Дачка.** О, Божухна! О, Божа! і што гэта вас, татка, ад учора гэтак перамяніла!

**Шахцёр** (*са сьмехам*). Што перамяніла? Ах, ты, дурная сарока! Як ты нарадзілася, дык я ўжо трэці раз быў у забастоўцы... я ведаю... (*Праз момэнт*). Дзе адзежа?

**Дачка.** Сьвітку ўчора я залажыла... далі крыпку рому і гарбаты для мамкі. Вельмі была аслабеўшы.

**Шахцёр.** Ну, нічога... пайду, як стаю... У канторы сказалі, што мне ўвечары зараз дадуць за чатыры дні ўперад. Выкуплю.

**Дачка.** Не... татка, ня пойдзеце! ня зробіце гэтага для мяне... яны на мяне пальцамі паказваць будуць, скажуць: вось! ідзе дачка здрадніка, юдаша, ашуканца... І будуць мець права, будуць мець, калі вы за чатырохдзённую плату хочаце прадаць сваіх братоў.

**Шахцёр** (*строга*). Маўчы! годзі ўжо я начуўся твае дурное гутаркі. Каб я адразу не пазволіў табе слухаць тое, што кажуць гэтыя паны са школы, дык ты ня лаяла-б бацьку Юдашам. А каб ты была гэткая самая і гэтулькі вартая, як я — і ты заўтра пайдзеш на сваю работу!

**Дачка.** Я — ніколі, татка! ніколі. Рукі і ногі сабе паламаю, а, калі да забастоўкі запісалася, дык на работу не пайду.

**Шахцёр.** А я табе кажу, што пайдзеш. А цяпер — пайшла спаць!

ЗЬЯВА IV.

**Тыя-ж і Штыгар** (*у вакне.*)

**Штыгар** (*гаворыць хутка*). Добры вечар, Пётра! Я абыйшоў усіх сваіх шахцёраў. Справа стаіць вельмі добра!

**Шахцёр** (*сядае на лаве, з іроніяй*). Ці пан прынёс нам грошы, ці хлеба?

**Штыгар** (*зьбянтэжаны*). Як гэта?

**Шахцёр.** Ну... калі пан гэтак цешыцца, што ўсё добра, дык мусіць пан даў хоць за што хлеба купіць... Я таксама ад людзей вярнуўся і бачыў што ў іх гэткае самае багацьце, як... у нас.

**Штыгар.** Я казаў аб моральных сілах. Усіх я знайшоў добра настроенымі. Усе трымаюцца пры забастоўцы... Пацярпець... і ўсё будзе добра...

**Шахцёр** (*іронічна*). Пан сёньня палуднаваў? і вячэру таксама есьці пан будзеш? А табаку пан маеш?

**Штыгар** (*зьбянтэжаны, машынальна бярэцца за партабак*). Калі ласка...

**Шахцёр.** Ня трэба. Я куру сваё—махорку... але хачу мець магчымасьць гэту махорку сабе... купіць.

**Дачка** (*хутка да Штыгара*). Паночку... ён заўтра йдзе ў шахту!

**Штыгар.** Што? што? Пётра! Ці гэта праўда? Вы йдзецё ў шахту?

**Шахцёр** (*пасьля паўзы цьвёрда*). Але!

**Штыгар.** Яшчэ ўчора...

**Шахцёр.** Учора... але... а сёньня... (*праз момэнт*). Войска вы бачылі?

**Штыгар.** Бачыў. (*Горача*). І вось дзеля гэтага, што яны тут, вы павінны згуртаваць усе сілы і стаць насупроць іх ды паказаць ім, як вы ўмееце бараніць свае правы.

**Шахцёр** (*памалу*). Ці пана хто калі пугай па сьпіне змазаў?

**Штыгар** (*абураны*). Мяне? пугай?

Савецкія **ўлады**, якія вядуць сьледзтва **ў Грузіі**, рэквізавалі жаноцкі манастыр Очэнічын і зрабілі з яго бальніцу для насяленьня. Гэткае самае распараджэньне будзе зроблена датычна ўсіх манастыроў у Грузіі.

У склад **савецкай** дэлегацыі для перагавораў аб гандлёвым трактаце з **Нямеччынай** увайдуць Фюрстэнбэрг-Ганэцкі, Брадоўскі і Янсэн.

Паводлуг вестак з **Швэцыі**, Брантінг заявіў, што ён замерваецца сфармаваць чыста соцыялістычны кабінэт.

Паведамляюць, што **Румынія** экстрэнна зьвярнулася да Лігі Народаў з просьбаю зьвярнуць увагу на пагражальную пазыцыю савецкага ўраду і на зграмаджаньне чырвоных войскаў, на савецка-румынскай граніцы, і прыняць меры, якія маглі-б ухіліць небясьпеку вайны.

У **Чэхаславакіі** прэзыдэнт рэспублікі дэкрэтам 18. X. абвясьціў канец вясьнянае сэсіі Нацыянальнага Сабраньня і склікаў першае паседжаньне васеньняе сэсіі Нацыянальнага Сабраньня на 30 гэтага кастрычніка.

У **Коўне** вялікую цікавасьць грамадзянства выклікае процэс быўш. мініcттра жыдоўскіх справаў Розэнбаума па абвінавачаньню яго ў самавольным прысваеньні званьня міністра жыд. справаў.

---

# Агляд прэсы.

„Kurjer Porannу“, які цяпер шмат месца дае справе крэсовых адносін, у адным з апошніх нумароў піша:

> Нястача сільнай і пэўнай палітычнай лініі ў крэсовых справах надта дэзорыентырує адміністрацыйную ўладу, якая часта паступае ня так, як гэтага вымагаюць патрэбы мясцовага насяленьня, а польскае грамадзянства няраз не разумее, да чаго імкнецца крэсовая палітыка Польшчы.
>
> Сьмела можна сказаць, што ня гледзячы на ўсю вагу законаў аб мове нацыянальных меншасьцяў ды інш. справаў, якія цікавяць інтэлігэнтную частку насяленьня, для большасьці насяленьня справы штодзеннага жыцьця маюць большую вагу.

Надта лёгка аўтор адносіцца да справы палітычных рэформаў, усю ўвагу скіроўваючы на эканамічныя пытаньні, якія бязумоўна таксама маюць вялізнае значэньне, але гэта толькі частка аздараўляючай крэсы „рэцэпты“.

> Дык дзеля гэтага гаспадарчыя справы і пытаньні, зьвязаныя з дабрабытам і фінансавай падмогай для зруйнаваных гаспадарак—справа шмат больш палючая, чымся палітычная проблема, навет самая важная. Разьвязка зямельнага пытаньня на Крэсах, заснаваньне варстатаў працы — вось чым можна здабыць сымпатыі мясцовага насяленьня.
>
> Для прыкладу можна сказаць аб неўрэгулёванай справе грунтаў, якія пры правядзеньні ўсходняй граніцы разрэзаны на дзьве часткі, з якіх адна апынулася за межамі дзяржавы. Дык-жа ёсьць гэткія факты, што гаспадарская хата засталася з польскага боку, а ўсе грунты з савецкага боку. Рэч зразумелая, што гэткі селянін павінен пераходзіць граніцу нелегальна, дзеля таго, што легальных пропускаў няма. Ведама, пераходзячы нелегальна, падпаецца агітацыі бальшавікоў, робіцца інформатарам і разьведчыкам для таго боку.
>
> Зьвярнуўшы ўвагу на апошнюю хвалю нападаў г. наз. дывэрсыйных на Крэсах, трэба выразна ад‘значыць, што ня ўсе напады ёсьць дывэрсыйныя. Крэсовы бандытызм знайшоў для сябе вельмі добры грунт у гэтых ваколіцах, дзякуючы ўзросту безрабоцьця. Дрывяная прамысловасьць на Крэсах амаль што зусім замёрла, а гэта быў амаль што адзіны варстат працы для вясковага насяленьня. Вось гэтыя безработныя, якія ўжо раней заражаны прабываньнем у Савецкай Расеі або ў чырвонай арміі, або ў камуністычных урадах у часе прыходу бальшавікоў у 1920 г., складаюць 90 проц. бандаў, якія адтрымоўваюць падмогу з С. С. Р. Р.
>
> Справа ясная, што разумнае зацікаўленьне гэтым элемэнтам безработных на Крэсах значна паменшыць безгалоўе і хаос, які запанаваў на Крэсах.

Далей аўтор дае яшчэ адну раду: высяляць за межы польскай Рэспублікі навет тых, хто прыехаў сюды легальна, дзеля таго што:

> сярод іх ёсьць савецкія конфідэнты і інформатары.

Гэта рада ўжо крыху лішняя. Мусіць аўтор з гэтага боку слаба знае тутэйшыя адносіны і ня ведае таго, што за людзьмі, якія ня маюць польскага „обывательства“, а тым болей прыехалі з за ўсходняй граніцы, ўлада ўсё-ж такі сочыць.

---

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Капітан цэпэліна ў Амэрыканскага Прэзыдэнта.

Як паведамляюць з Нью-Іорку, капітан пераляцеўшага цераз Атлянтычны акіян цэпэліна Экэнэр ў таварыстве афіцароў свае каманды 16 гэтага кастрычніка быў прыняты прэзыдэнтам Злучаных Штатаў Кулідджам, які павіншаваў Экэнэра са шчасьлівым пералётам у Амэрыку. Ен заявіў, што гэтая падзея зьяўляецца новым доказам поўнага аднаўленьня міру паміж Амэрыкай і Нямеччынай. Экэнэр і быўшы пры аудыенцыі нямецкі пасол Відфэльд выказалі прэзыдэнту падзяку за сардэчны прыём, зроблены цэпэліну ў Амэрыцы.

У той-жа самы дзень адбыўся раут у нямецкім пасольстве. А ў дзяржаўнага сэкрэтара флёту Уільбурга адбылася нарада аб фармальнасьцях прынятку цэпэліна амэрыканскім марскім міністэрствам. Параход „Гардінг“ даставіў запасныя часьці, патрэбныя дзеля пераводу гэлію з „Шэкандоа“ ў новы цэпэлін. Гэта аказалася неабходным дзеля таго, што запасаў гэлію, якіх было-б досіць дзеля напаўненьня новага цэпэліна, ў Амэрыцы няма. Пры гэтым яшчэ Злучаныя Штаты маюць у сваім распараджэньні толькі адзін экіпаж, вывучаны кірававаць цэпэлінам.

Новы цэпэлін будзе называцца „Лёс-Анжэлёс“.

### Заручыны італьянскага насьледніка.

У бліжэйшай будучыні маюць адбыцца заручыны італьянскага насьледніка пасаду, прынца П'емонцкага, з дачкою бэльгійскага караля Марыяй-Юзэфаю. Офіцыяльна аб гэтым будзе абвешчана пасьля павароту прынца з паўночнае Афрыкі, дзе ён цяпер знаходзіцца.

### Падарожа ў полярныя краі.

Француcкі марахoд Жюль дэ-Пайер, які зьбіраўся ў хуткім часе выехаць на спэцыяльна-абстаўленым караблі на архіпэляг Францішка-Язэпа, адтуль замерваецца аб‘ехаць полярныя краі. Адлежнасьць ад архіпэлягу Францішка-Язэпа да паўночнага бягуна раўняецца больш-менш 650 ангельскім мілям.

### Сьмерць лятуна.

Пры пералёце з Масквы ў Кэнігсбэрг, нямецкі лятун Штэгэр пры спуску каля Вязьмы наляцеў на дзерава, дзеля таго, што быў туман. Крыло аэропляну зачапілася за дзерава, апарат перакуліўся і сядзеўшыя ў ім былі выкінены. Лятун быў забіты, мэханік застаўся цэлы. Цела загінуўшага пілёта было дастаўлена ў Кэнігсбэрг на другім аэропляне. Пасажыраў на аэропляне ня было.

### Насяленьне ў Францыі памяншаецца.

Апублікованыя ведамасьці аб росьце насяленьня ў Францыі ў другую чэцьверць бягучага году паказваюць новае вострае памяншэньне прыбытку. За сказаную чэцьверць году занатована толькі 27.694 нараджэньні проці 37.555 ў тую-ж чэцьверць мінулага году, г. знач. што яны паменшыліся больш, як на 30%. Зьменшыўся і лік шлюбаў.

### Роўнапраўнасьць жанчын.

Як паведаміў дацкі міністар народнае прасьветы, ўрад замерваецца ўнясьці прапазыцыю, каб зьмяніць закон аб дзяржаўнай службе з мэтаю даць жанчынам права займаць пасады сьвяшчэньнікаў. Паводлуг закону, які цяпер мае моц у Даніі, жанчыны роўнапраўны з мужчынамі пры назначэньні на дзяржаўную службу, за выняткам, аднак-жа, ваенных і духоўных пасадаў. У апошнія гады ўжо было зроблена гэта ў Швэцыі, дзе жанчынам было дано гэтае права.

### Прыбываньне насяленьня ў Нью-Іорку.

У апошнія гады насяленьне Нью-Іорку павялічвалася ў працягу году больш-менш на 200 тысяч чалавек. Паводлуг зробленых абрахункаў, калі яно будзе павялічвацца тым самым тэмпам, дык у 1960 годзе ў Нью-Іорку павінна быць 20 мільёнаў жыхароў. Тады ў гандлёвы цэнтр гораду штодня павінны будуць прыяжджаць з прыгарадаў і вяртацца дамоў ня менш, як 3 мільёны людзей.

---

**Шахцёр**. А дзе пан будзе тады, як нас нагайкамі будуць заганяць да работы?

**Штыгар.** Я?

**Шахцёр.** Ну... але... пан ды іншыя паны інтэлігэнты, якія нас намовілі да забастоўкі! Дзе вы тады будзеце? Мусіць у першых радох—павядзеце нас, як нейкія гэнэралы пад нагайкі, ха! ха! ха! (*сьмяецца іронічна і працяжна*) і самі вы паны разам з намі дастанеце нагайкай па карку... (*ўстае і ідзе да вакна, пасьля паўзы*). Але я не сабака, каб мяне сьцёбалі... і не хачу йсьці пад салдацкую нагайку... Навет сабака, калі лепшы, а не падваротнік, і той ад бізуна ўцякае, а я — дык горшы за сабаку? Не! не! паночку... Як казакі прыйшлі, дык я ўжо лепш пайду пад зямлю... ў маю шахту.. бо, панок... пасьля нагаек дык і кулі сьвішчуць...

**Штыгар**. Калі-б вы навет і памёрлі за сваю справу, дык гэта яшчэ ня блага. Я вам казаў, што па трупах іншых, як па ступеньках, пойдуць тыя, што прыйдуць пасьля вас, усё вышэй ды вышэй, ажно нарэшце даб'ецёся таго, што вам належыцца.

**Шахцёр** (*са злосьцю і іроніяй*). Хі... як гэта вам лёгка казаць, што, знакам тым, чалавек павінен быць мерцьвяком, каб іншыя пасьля яго да чагосьці дакараскаліся! Калі пан гэткі шпаркі, дык ідзі сам — падстаў грудзі і хай пана раней абсьцёбаюць — а пасьля куляй прастрэляць... (*Пасьля паўзы, з пагардай*). Але гэткія вось інтэлігэнты, як вы, паны штыгары, дык усе хаваюцца за нашы сьпіны і толькі з кутка цкуюць намі... (*плюе*). Трусы!

**Штыгар** (*злы*). Як сьмееш?

**Дачка**. Татка!...

**Штыгар** (*бяжыць да дзьвярэй, убягае ў хату быццам хочучы ўдарыць Шахцёра, але той пачынае сьмяяцца працяжным, іранічным сьмехам і сьмела глядзіць яму ў вочы*).

**Штыгар.** Як вы можаце? дзеля чаго вы думаеце, што мы трусы?

**Шахцёр**. А можа не? што? Толькі так тайком, ціхачом, па кутох намаўляеце, а ніколі ў ясны дзень — яўна — як краты...

**Штыгар**. Бо ня можам... дык-жа ведаеце, што нас узялі-б у вастopг.

**Шахцёр.** А нас дык не бяруць? А да гэтага часу вывязьлі ўжо васьмёх у Петракоў, але ня вас, а нас—рабочых, а з вас не чапалі ніводнага.

**Штыгар**. Брахня — і нас арыштоўваюць.

**Шахцёр.** Го! го! і арышты бываюць розныя. Вы паны — з вамі інакш. Апроч таго — вы нежанатыя, дзяцюкі, — а ў нас дзеці, жанкі застаюцца. Вас часьцей за ўсё выпусьцяць... а вось ад апошняй забастоўкі нашы сядзяць у Петракове ўжо паўтара года і ніхто аб іх не клапоціцца. Усё чакаюць... сьледзтва... Ведама, бедната, дык павінна йсьці ў вагонь заўсёды першай.

**Штыгар.** Мы вось працуем, каб вы ня былі беднатой.

**Шахцёр**. Як? гэтак, што бегаеце ад хаты да хаты і людзям, а найбольш бабам, у галаве пераварочваеце. (*Пасьля паўзы*). Апроч таго... я бедаком радзіўся, няхай-жа бедаком і здохну—я і мае дзеткі!

**Штыгар**. Ня гледзячы на ўсё гэта, мы вас з бяды выцягнем.

**Шахцёр**. Дзякую ласцы панскай... праз трупы, праз голад — праз забойствы? Не хачу.

**Штыгар**. Ты адзін, які ня хоча. На сьвеце ёсьць тысячы бедакоў, якія пайдуць за намі.

**Шахцёр.** Як яны пайдуць за вамі, калі вы часьцей за ўсё хаваецеся за нашымі плячыма. Ха! ха! ха!

**Штыгар.** Ня сьмейся гэтак, Пётра!

**Шахцёр**. Гэта голад так ува мне сьмяецца! Гэта забастоўка так ува мне сьмяецца!.. Гэта ўдзячнасьць мая вам, паны агітатары, гэтак ува мне сьмяецца. Гляньце, як тут цяпер пуста. Ня было серабра, але была сякая-такая маемасьць! А жонка трымалася на нагах—а цяпер што? Ляжыць, як мярцьвяк, бо няма чаго даць ёй пасілкавацца! (*шторазъ з вялікшым жалем*) Пан вадзянку калі еў? Дык няхай пан папрабуе... Юлька! давай гэтаму пану нашу страву!

*Пералажыў* **Ю. М.**

(*Канец у чарод. нумары*).

